**№ 21 (3864)**

18 сакавіка 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**АКТУАЛІІ**



*Святлана КАЛІНКІНА*

## Крыві захацелася?

**У лютым гэтага года на самых розных аналітычных сайтах з'явілася інфармацыя пра тое, што рыхтуецца дэнансацыя Белавежскіх пагадненняў. Паведамлялася, што прэзідэнты Расіі, Украіны і Беларусі (а за імі і іншыя) у бліжэйшыя месяцы павінны зрабіць сумесную заяву з прыкладна такім тэкстам.**

**"У сувязі з парушэннем Злучанымі Штатамі Амерыкі, Еўропай, НАТА сваіх абавязацельстваў па гарантаванні цэласнасці і незалежнасці дзяржаў, якія выйшлі са складу Савецкага Саюза; у сувязі з непрыкрытым ціскам і ўмяшальніцтвам ва ўнутраныя справы Украіны і іншых дзяржаў, арганізацыяй, фінансаваннем і непасрэдным удзелам у спробе дзяржаўнага перавароту пастанаўляем:**

**— Дэнансаваць і прызнаць незаконнымі і несапраўднымі пагадненні і заявы, зробленыя 8 снежня 1991 года кіраўнікамі Расіі, Украіны і Беларусі па выніках перамоў у Белавежскай пушчы.**

**— Аднавіць у поўным аб'ёме агульнадзяржаўныя кіраўнічыя органы і функцыі.**

**— Прыняць у якасці заканадаўчай базы заканадаўства Расійскай Федэрацыі і стварыць пагаджальны орган па прывядзенні заканадаўстваў рэспублік да адпаведнасці агульнаму заканадаўству.**

**— Прызнаць падзеі ва Украіне спробай дзяржаўнага перавароту, а яго ўдзельнікаў — удзельнікамі спробы дзяржаўнага перавароту і прыняць усе меры (у тым ліку сілавыя) для падаўлення незаконных фарміраванняў.**

**— Прызначыць прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Уладзіміра Уладзіміравіча Пуціна часова выконваючым абавязкі кіраўніка Саюзнай дзяржавы.**

**— Прызначыць выбары кіраўніка Саюзнай дзяржавы..."**

**Хаця і не 1 красавіка з'явіўся гэты тэкст, але ўсе сур'ёзныя людзі палічылі яго правакацыяй. Альбо нечым накшталт жарту нейкіх фрыкаў, чорных фантастаў, састарэлых дзівакоў. Прасцей кажучы — не звярнулі ўвагі. І вось цяпер, пасля анексіі Крыма Расіяй, высвятляецца, што падобнае развіццё падзей не нейкая фантастыка.**

**Увесь свет зараз устрывожаны расказам лідара крымскіх татар Мустафы Джэмілева пра тэлефонную размову з Уладзімірам Пуціным. Калі больш дакладна — выказваннем пра тое, што "Украіна выйшла з Савецкага Саюза не зусім законна". Так лічыць Пуцін, пра што і сказаў Мустафе Джамілеву.**

**Гэта азначае, што і Беларусь незаконна. І Літва. І Азербайджан. І Туркменія...**

**Аналітыкі адразу ўспомнілі, што Уладзімір Пуцін у тым ці іншым выглядзе спрабуе выступаць *"збіральнікам земляў"*. І прама выказваўся на гэты конт і называў развал СССР *"самай вялікай катастрофай XX стагоддзя"*. Ды і не толькі словы былі. Усе забыліся, але Дзяржаўная Дума Расіі для чагосьці юрыдычна дэнансавала Белавежскія пагадненні. Праўда, тады афіцыйныя асобы казалі, што гэта чыста сімвалічнае рашэнне, якое ніякіх юрыдычных наступстваў мець не будзе. Толькі цяпер упэўненасці ў гэтым ужо няма, літаральна за першыя тыдні сакавіка ўсё змянілася.**

**Ці мог хто падумаць, што Расія ўвядзе свае войскі (без апазнавальных знакаў) на ўкраінскую тэрыторыю і захоча адабраць кавалак Украіны?**

**Хто мог падумаць, што Расія будзе падтрымліваць, падбухторваць, бараніць тых, хто мае намер разарваць Украіну?**

**Такое здавалася немагчымым, неверагодным, нерэальным. Каб брат ды са зброяй ішоў на брата — не будзе такога!..**

**А вось цяпер з дня на дзень чакаем сапраўднай вайны. І па адзін бок украіна-расійскай мяжы "трэніруюцца" танкісты і дэсантнікі, і па другі. Расійскія войскі ўжо ў Крыме, пад дуламі аўтаматаў прайшоў рэферэндум. Рэкордная яўка, рэкордная аднадушнасць! Крымчане, нібы зомбі, радуюцца таму, што іх дзеці і ўнукі атрымалі перспектыву паваяваць у Чачні, Дагестане ды яшчэ чорт ведае дзе, замест таго каб жыць у свабоднай еўрапейскай краіне...**

**Кадры з крымскіх выбарчых участкаў, якія ў нядзелю паказвалі тэлеканалы, аказаліся сапраўды цяжкім відовішчам. Гэтыя радасныя і ўзнёслыя з-за "гістарычнага рэферэндуму" людзі жылі ва Украіне і ненавідзелі краіну, у якой жывуць. Як аказалася, украінцы для іх усе гэтыя гады былі не блізкімі братамі, а бандэраўцамі, якіх яны проста вымушана цярпелі. Разам елі-пілі, смяяліся і плакалі, жанілі дзяцей, хавалі памерлых на адных могілках і... ненавідзелі. Не ўладу ненавідзелі, не Януковіча ці Юшчанку, не Майдан ці былую карупцыю, а... Украіну і ўкраінцаў. Бо ўлада была рознай, і палітыкі ва Украіне былі розныя, а яны шчыра прызнаваліся на выбарчых участках, што *"чакалі вяртання да Расіі-матухны ўсе апошнія 23 гады"*.**

**І вось я цяпер думаю: тыя 25—30 працэнтаў нашых суграмадзян, якія настойліва пры ўсялякіх сацыялагічных апытаннях выказваюцца за ўваходжанне Беларусі ў склад Расіі, — яны гэткія ж? Яны нашу Беларусь гэтаксама ненавідзяць? Нас, беларусаў, яны гэтаксама толькі вымушана церпяць? І на самай справе даўно чакаюць *"брацкай дапамогі"* расійскіх БТРаў, каб, нарэшце, сказаць нам усё, што яны пра нас думаюць?**

**25—30 працэнтаў! Гэта ж кожны чацвёрты! Ці нават кожны трэці! Пуціну ёсць на каго абаперціся...**

**КАДРЫ**

## *У Астравецкай АЭС з'явіўся гендырэктар*

Учора Аляксандр Лукашэнка даў згоду на прызначэнне **Дзмітрыя Кійко** намеснікам міністра фінансаў, **Уладзіміра Гракуна** — намеснікам міністра сельскай гаспадаркі і харчавання, **Уладзіміра Прывалава** — намеснікам міністра спорту і турызму.

Лукашэнка таксама пагадзіўся з прызначэннем **Міхаіла Філімонава** генеральным дырэктарам дзяржпрадпрыемства "Беларуская атамная электрастанцыя".

Як паведамілі ў прэс-службе, Лукашэнка таксама прызначыў прадстаўнікоў Беларусі ў шэрагу міжнародных структур. У прыватнасці, **Віктар Кагут** стаў намеснікам генеральнага сакратара рады Міжпарламенцкай асамблеі краін СНД — прадстаўніком Нацыянальнага сходу Беларусі ў МПА СНД і Беларускага парламента ў МПА Еўразійскай эканамічнай супольнасці.

Прэзідэнт таксама даў згоду на прызначэнне **Святланы Пішч** намеснікам начальніка апарату прадстаўніцтва Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі ў Беларусі, **Максіма Мазуркевіча** — намеснікам начальніка галоўнага арганізацыйнага кіравання Сакратарыята Парламенцкага сходу Саюзнай дзяржавы.

Акрамя таго, Лукашэнка даў згоду на прызначэнне кіраўнікоў шэрагу райвыканкамаў, кіраўнікоў прадпрыемстваў і навучальных устаноў.



**ЛІЧБА ДНЯ**

## *Знешні доўг Беларусі перавысіў 39 мільярдаў долараў*

Валавы знешні доўг Беларусі за 2013 год вырас на 15,9% і склаў на 1 студзеня 2014 года 39 мільярдаў 124,3 мільёна долараў, паведамляецца ў статыстычнай справаздачы Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь. Атрымліваецца, што кожны беларус павінен амаль 4 тысячы долараў.

**НАЦИОНАЛЬНАЯ ПРОБЛЕМА**

## Загубим почву — загубим основу жизни!



*Статья кандидата сельскохозяйственных наук, доцента **Виктора Павловича Валько**, кандидата технических наук **Василия Васильевича Каверовича**, консультанта Миноблсельхозпрода **Святослава Адамовича Писчика**, которую "Народная Воля" сегодня печатает на 3-й странице, полагаем, привлечет внимание президента страны, премьера, министров, председателя Национальной академии наук, законодателей. Она должна быть изучена с карандашом в руках руководителями, специалистами буквально всех агропромышленных хозяйств Беларуси.*

*Как же так — вливания из государственного бюджета в сельскохозяйственную отрасль огромные, а должной отдачи нет? Потому что **по-варварски истощается земля, губится ее плодородие!***

*К какой, можно сказать, катастрофе ведет неграмотное хозяйствование на земле — об этом вышеназванная статья. Острейший разговор, начатый уважаемыми авторами, редакция "Народной Воли" намерена продолжить.*

**ГУЧНАЯ СПРАВА**

# Як бервяном па галаве

*Гендырэктар ААТ "Барысаўдрэў" Уладзімір Мальцаў (на фота злева) знаходзіцца за кратамі. 13 сакавіка супраць яго распачата крымінальная справа па трэцяй частцы артыкула 424 Крымінальнага кодэкса (злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі) "у сувязі з прычыненнем цяжкіх наступстваў дзяржаўным інтарэсам у ходзе выканання мерапрыемстваў па мадэрнізацыі", якая праводзіцца на прадпрыемстве. На маёмасць Мальцава накладзены арышт. Справу вядзе Следчы камітэт Беларусі.*



"Барысаўдрэў" "загучаў" летась 8 лістапада. Тады прэзідэнт Лукашэнка прыехаў на ААТ "Барысаўдрэў" інспектаваць вынікі работы па мадэрнізацыі прадпрыемства і застаўся вельмі незадаволены, убачыўшы ў цэхах і на вытворчай тэрыторыі крайнюю ступень безгаспадарчасці. Вінаватымі тады былі названы многія, толькі не дырэктар, які ледзь не плакаў, расказваючы кіраўніку дзяржавы свае беды.

У любым выпадку па выніках той "інспекцыі" прызналі, што, нягледзячы на абяцанні, работы па мадэрнізацыі былі зацягнуты, дзяржаўныя сродкі змарнаваны. У той жа дзень за правалы ў мадэрнізацыі "Барысаўдрэва" былі звольнены старшыня Мінскага аблвыканкама **Барыс Батура** і намеснік кіраўніка прэзідэнцкай Адміністрацыі **Андрэй Тур.** Акрамя таго, адправілі ў адстаўку кіраўніка канцэрна "Беллеспапераапрам" **Аляксандра Пераслаўцава,** кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта **Андрэй Кабякоў** атрымаў "строгую вымову з апошнім папярэджаннем"... А вось малады дырэктар "Барысаўдрэва" Уладзімір Мальцаў застаўся на сваёй пасадзе "выпраўляць памылкі", нягледзячы нават на вуснае распараджэнне кіраўніка дзяржавы, якое паказалі па БТ: "*Батуру адхіліць ад займанай пасады і накіраваць сюды кіраўніком. Калі праз тры дні не выйдзе на працу, распачаць па ім крымінальную справу...*" І ўсё ж Батура ў Барысаў не паехаў, палічыўшы за лепшае стаць простым пенсіянерам. Затое Уладзімір Мальцаў і сам, апрануўшы робу, "ліквідаваў недапрацоўкі" і падначаленых заганяў.

Сёння арышт дырэктара — самая гарачая навіна ў Барысаве. Жыхар горада **Міхаіл Васільеў** расказаў "Народнай Волі":

*— Людзі пра гэта, канешне, размаўляюць. Кажуць, што Мальцаў быў неблагі дырэктар, нешта стараўся зрабіць, суботнікі праводзіў розныя. Вось толькі ўзяўся ён за прадпрыемства, якое аказалася ў надта запушчаным стане. Рознае цяпер людзі кажуць пра тое, чым усё гэта скончылася. Але асноўная думка — трапіў пад "зачыстку". Лукашэнка ж цяпер па тэлевізары сказаў, што трэба змагацца з карупцыяй, каб не было, як ва Украіне. Вось Мальцаў і патрапіў пад раздачу.*

Следчыя пакуль ніякіх каментарыяў па гэтай справе не даюць, спасылаючыся на тайну следства. Але наўрад ці Уладзімір Мальцаў думаў, што яго намаганні будуць ацэнены такім чынам. Ён жа вельмі стараўся, апошнім часам нават па тэлефоне з прэсай не хацеў размаўляць, абразаючы: "Я каторы дзень папалуднаваць не магу! Перада мной пастаўлена адказная задача!" Толькі вось і пракуроры пастараліся, бо ім, мабыць, таксама задачы пастаўлены.

**Да ведама.** "Барысаўдрэў" — найстарэйшае прадпрыемства горада. Запалкавая фабрыка была заснавана яшчэ ў 1901 годзе. У тыя часы запальную масу рыхтаваў сам гаспадар прадпрыемства, бо яе рэцэпт быў вялікім сакрэтам. Пазней тут пачаў працаваць і фанерны цэх. Прадукцыя пастаўлялася ў тагачасную Персію (цяпер Іран), Турцыю, Расію і іншыя краіны. Прадпрыемства было разбурана ў часы вайны, але ў 70-я гады мінулага стагоддзя яно было адным з найбуйнейшых запалкавых фабрык у краіне. Сёння тут вырабляюць усё тыя ж запалкі, фанеру, а таксама мэблю на філіяле завода — Сіняўскай мэблевай фабрыцы.

**У ТЭМУ**

Чарговы заклік Аляксандра Лукашэнкі да чыноўнікаў і кіраўнікоў арганізацый зрабіць высновы з падзей ва Украіне і не дапускаць праяў карупцыі прагучаў 11 сакавіка. У той жа дзень пракуратурай Гродзенскай вобласці была распачата крымінальная справа супраць дырэктара ААТ "Лакафарба" ў Лідзе і генеральнага дырэктара ТАА "Гандлёвы дом "ЛідаЛК". Іх падазраюць у злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі. Следчыя лічаць, што яны дзейнічалі з асабістай зацікаўленасці, рэалізоўвалі прадукцыю ААТ "Лакафарба" па цэнах ніжэй яе сабекошту, чым прычынілі шкоду ў асабліва буйным памеры на суму больш за 57 мільярдаў рублёў.

А праз дзень, 13 сакавіка, пракуратура Магілёўскай вобласці распачала аналагічную крымінальную справу супраць галоўнага інжынера РУП "Бабруйскі завод трактарных дэталяў і агрэгатаў", які "з асабістай зацікаўленасці схаваў факт пажару на прадпрыемстве і арганізаваў выраб службовых дакументаў, якія абгрунтоўваюць неабходнасць набыцця новага абсталявання наўзамен знішчанага пажарам". Названыя дзеянні, як паведамляецца, пацягнулі прычыненне прадпрыемству шкоды ў асабліва буйным памеры.

Месяцам раней крымінальная справа была распачата і супраць генеральнага дырэктара ТАА "МАЗ-РУС", які "наўмысна насуперак інтарэсам службы ў парушэнне патрабаванняў заканадаўства не забяспечыў прымянення залогу пры заключэнні дагавора куплі-продажу аўтамабільнай тэхнікі, чым нанёс ААТ "МАЗ" шкоду на суму больш за 50 мільярдаў рублёў.

Кампанію ўсім вышэйназваным складае і дырэктар РУП "Станкабудаўнічы завод ім. С.М.Кірава". Ленінская пракуратура Мінска абвінавачвае чыноўніка ў тым, што ён насуперак інтарэсам службы даваў падначаленым указанні афармляць і падпісваць дакументацыю, якая не адпавядае рэчаіснасці, што таксама пацягнула прычыненне шкоды ў асабліва буйным памеры.

Невядома, канчатковы гэты спіс ці ён будзе папоўнены новымі імёнамі. Але калі справа дойдзе да "царскага пасёлка" ў Драздах, дзе чыноўнікі з не такімі ўжо высокімі заробкамі пабудавалі сабе палацы коштам у мільёны долараў, — толькі тады можна будзе сказаць, што Аляксандр Лукашэнка сапраўды зрабіў высновы з вопыту Віктара Януковіча. А дырэктары — гэта так, "стрэл у паветра", каб напалохаць. Бо яны, па большасці, людзі залежныя і несамастойныя.

**Любоў ЛУНЁВА.**

**АФІЦЫЙНА**

## *З-за мяжы беларусы перавялі больш за 1 мільярд долараў*

Нацыянальны банк краіны падлічыў, што ў мінулым годзе беларусы перавялі з-за мяжы на радзіму 1 мільярд 44,4 мільёна долараў. Гэта больш у параўнанні з 2012 годам на 93,6 мільёна, або амаль на 10%. Трэба адзначыць, што статыстыка ўлічвае толькі аперацыі па банкаўскіх картках і паштовыя пераводы. Зразумела, што нашы суайчыннікі, якія працуюць за межамі краіны, напрыклад, у Расіі, могуць і проста прывозіць грошы родным на радзіму, не карыстаючыся паштовымі пераводамі. І можна меркаваць, што гэтыя сумы таксама немалыя.

**НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА**

*Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук*



## Опасная Россия

Проведение 16 марта под дулами автоматов формального референдума на предмет аннексии Крыма, включения его в состав России — дело вчерашнего, а точнее, позавчерашнего дня. Не придется долго ждать ответных санкций Запада. Правда, пока Путина они не очень-то пугают. Он сразу заявил, что ущерб для сторон будет обоюдный.

Посмотрим на вопрос с позиции торгово-экономических отношений России с западными партнерами. В 2013 году США экспортировали в Россию товаров на 16,5 млрд долларов, а купили у нее на 11 миллиардов. Для американцев такой товарооборот, что слону дробина, — они и не заметят. А вот товарооборот России с Германией составил немалые 75 млрд долларов и уступает только российско-китайскому обороту, который достиг рекордных 88 млрд долларов. Экспорт Германии в Россию составил порядка 38 млрд долларов, Италии — 14,5 млрд, Франции — 13 миллиардов. Им, конечно, эти деньги лишними никак не покажутся.

Польша выручила в России 8,3 млрд долларов, Чехия — 5,3, Венгрия — 3, Словакия — 2,4 млрд долларов. Для этих стран валютная выручка имеет не меньшее значение, чем для Беларуси. Россия — третий по величине торговый партнер ЕС после Китая и США. Неслучайно западные страны сразу объявили только о визовых санкциях против отдельных российских чиновников, о возможном аресте их активов. О торгово-экономических санкциях западникам придется сильно подумать. Россия все-таки заметная страна в мировом торговом обороте, который у нее превысил 1 трлн долларов. Для сравнения: оборот ЕС — 4,28 трлн долларов, США и Китая — по 3,8 трлн, Японии — 1,68 трлн долларов. В 2012 году Россия купила за рубежом товаров на 335,4 млрд долларов, а продала на 529,3 миллиарда. Однако три четверти экспортных поступлений обеспечили, как можно догадаться, углеводороды — нефть, газ и иже с ними. Подобная односторонность экспорта — ахиллесова пята России. США могут договориться с арабами и обрушить цены на нефть, от которых зависят и цены на газ. Три года назад доля углеводородов в экспорте была только 65%. Продовольствия Россия экспортировала на 11,35 млрд долларов, а золота и драгоценных камней — аж на 14 миллиардов.

О своем золотом запасе страна также не забывает, увеличив его до 1000 тонн после 200 с небольшим, что оставила ей КПСС. Это блеск России.

Общеизвестно, что российская экономика существенно зависит от импорта. Сами российские экономисты постоянно обращают внимание на засилье иностранных товаров в стране. К примеру, доля импорта на российских прилавках доходит в целом до 50%. Это значительно выше, чем, скажем, у нас, в Беларуси. Для России, как и для нашей страны, особенно важен импорт высокотехнологичной западной продукции, и имеет большое значение присутствие западного капитала.

*(Окончание на 2-й стр.)*

**ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ**

## *Нагадалі пра палітвязняў — самі селі за краты*

10 сутак арышту. Такое пакаранне для грамадскіх актывістаў **Алеся Арастовіча** і **Уладзіміра Раманоўскага** абраў суд Савецкага раёна сталіцы за праявы салідарнасці з палітвязнямі. Калі вярстаўся нумар, судзілі старшыню АГП **Анатоля Лябедзьку,** але вердыкт быў яшчэ невядомы.

У нядзелю 16 сакавіка на перадвыбарным пікеце каля Камароўскага рынку затрымалі больш за дзясятак чалавек, у тым ліку журналістаў. Віной удзельнікаў пікета палічылі тое, што яны трымалі партрэты дзесяці беларускіх палітвязняў, а таксама зніклых Віктара Ганчара, Юрыя Захаранкі, Анатоля Красоўскага і Дзмітрыя Завадскага...

НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ!

# Дзе справядлівасць?!



## *КРЫЖАНОЎСКІ Мікалай Кірылавіч*

***(год нараджэння — 1937)***

*Дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання (1990—1995 гг.) ад Жодзінскай-Аўтазаводскай выбарчай акругі №86.*

### Працоўны шлях

*Пасля школы скончыў лесатэхнічны тэхнікум у Мінску, працаваў у розных арганізацыях леспрамгаса. З 1961 года — на Беларускім аўтамабільным заводзе. Спачатку — канструктарам, потым узначальваў канструктарскае бюро.*

*Закончыў Ленінградскі політэхнічны інстытут.*

## ЗАКОНЫ, ІНШЫЯ ДЗЯРЖАЎНЫЯ АКТЫ, ЯКІЯ ПРЫМАЛІСЯ З УДЗЕЛАМ М.КРЫЖАНОЎСКАГА

**Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі (27 ліпеня 1990 года)**

Гэтым лёсавызначальным дакументам на тэрыторыі рэспублікі абвяшчалася вяршэнства Канстытуцыі і законаў Беларускай ССР, паўната ўлады рэспубліканскіх дзяржаўных органаў на ўсёй тэрыторыі краіны, самастойнасць і незалежнасць Беларусі ў міжнародных зносінах. Вышэйшай мэтай суверэнітэту прызнавалася забеспячэнне свабоднага развіцця і дабрабыту грамадзян рэспублікі.

25 жніўня 1991 года Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце атрымала статус канстытуцыйнага закона, на падставе якога былі ўнесены змены і дапаўненні ў Канстытуцыю БССР 1978 года.

**Закон "Аб сялянскай (фермерскай) гаспадарцы" (18 лютага 1991 года)**

Гэты закон упершыню вызначыў прававое становішча, умовы стварэння, дзейнасці, рэарганізацыі і ліквідацыі сялянскай (фермерскай) гаспадаркі, правы і абавязкі яе членаў. Па сутнасці, была народжана новая форма ўласнасці.

**Закон "Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпелых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС" (22 лютага 1991 года)**

Законам устаноўлены льготы пацярпелым ад аварыі на ЧАЭС грамадзянам, ліквідатарам наступстваў трагедыі. Гэта было надзвычай важна, калі бяда давала пра сябе ведаць на кожным кроку.

**Закон "Аб праве ўласнасці на зямлю" (16 верасня 1993 года)**

Гэтым законам у краіне была ўведзена прыватная ўласнасць на зямельныя ўчасткі. Раней насельніцтва пра гэта магло толькі марыць.

**Закон "Аб банках і банкаўскай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь" (3 снежня 1990 года)**

Усе ўстановы банкаў СССР на тэрыторыі Беларусі былі абвешчаны яе ўласнасцю. На базе Беларускага рэспубліканскага банка Дзяржбанка СССР створаны Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь.

**Закон "Аб назве Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі" (19 верасня 1991 года)**

Гэтым законам Вярхоўны Савет пастанавіў: "1.Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку ў далейшым называць "Рэспубліка Беларусь", а ў скарочаных і састаўных назвах "Беларусь".

**Закон "Аб пенсіённым забеспячэнні" (17 красавіка 1992 года)**

Закон забяспечыў рэгулярны пераразлік пенсій і выратаваў іх ад інфляцыі. І па сёння пенсіі ў Беларусі прывязаны да сярэдніх заробкаў па краіне.

**Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь (15 сакавіка 1994 года)**

Асноўны закон краіны, якая нарэшце стала суверэннай. Ён стаў увасабленнем мары беларускага грамадства і ў той жа час вынікам пэўнага кампрамісу паміж асноўнымі палітычнымі сіламі. Дзякуючы дэпутатам-дэмакратам КПСС перастала быць **кіруючай** палітычнай партыяй. М.Крыжаноўскі ўваходзіў у склад Камісіі Вярхоўнага Савета па распрацоўцы Канстытуцыі. Як, дарэчы, і ў парламенцкую Апазіцыю БНФ, дзякуючы актыўнай рабоце якой і былі прыняты многія лёсавызначальныя законы Беларусі.

*Пенсія, якую атрымлівае на сённяшні дзень экс-дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання Мікалай Кірылавіч Крыжаноўскі на падставе Закона "Аб пенсіённым забеспячэнні", —*

***2 МІЛЬЁНЫ 553 ТЫСЯЧЫ РУБЛЁЎ.***

*(Калі спыніць працу, яго пенсія складзе прыблізна 3 мільёны 137 тысяч рублёў.)*



## *РУГАЛЬ Ніна Фёдараўна*

***(год нараджэння — 1951)***

*Дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь 3-га склікання (2004—2008 гг.) ад Жодзінскай выбарчай акругі №81.*

### Працоўны шлях

*Рабочую біяграфію пачынала швачкай на віцебскай фабрыцы "Сцяг індустрыялізацыі", потым працавала тэхнолагам, намеснікам начальніка цэха, начальнікам цэха, намеснікам дырэктара ААТ "Світанак".*

*Закончыла Віцебскі тэхналагічны інстытут.*

## ЗАКОНЫ, ІНШЫЯ ДЗЯРЖАЎНЫЯ АКТЫ, ЯКІЯ ПРЫМАЛІСЯ З УДЗЕЛАМ Н.РУГАЛЬ

***Даведка:** дэпутаты Палаты прадстаўнікоў 3-га склікання дэманстравалі бурную дзейнасць, прынялі шмат дзяржаўных актаў. Але ў гісторыю гэты парламент хутчэй за ўсё ўвойдзе тым, што прыняў шэраг, можна сказаць, антынародных законаў. **Н.Ругаль галасавала за:***

**Закон "Аб органах унутраных спраў Рэспублікі Беларсь" (17 ліпеня 2007 года)**

У адпаведнасці з артыкулам 8 гэтага закона штатная колькасць органаў унутраных спраў у нашай краіне цяпер вызначаецца прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь. А дзе голас парламента? Дзе голас народа? Ці патрэбна Беларусі такая вялікая колькасць сілавікоў? Чаму расходы бюджэту на іх утрыманне пастаянна растуць?

**Закон "Аб дзяржаўных сацыяльных ільготах, правах і гарантыях для асобных катэгорый грамадзян" (23 мая 2007 года)**

У выніку прыняцця закона пэўных ільгот пазбавіліся літаральна ўсе катэгорыі грамадзян — ліквідатары аварыі на ЧАЭС, афганцы, былыя вязні фашысцкіх лагераў, донары, студэнты. Некаторыя льготы адабралі нават у інвалідаў І, ІІ и Ш груп. І па сёння гэты закон няйначай як антынародным і антысацыяльным не называюць.

**Закон "Аб унясенні дапаўненняў і змяненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь па пытаннях узмацнення адказнасці за дзеянні, накіраваныя супраць чалавека і грамадскай бяспекі" (2 снежня 2005 года)**

Згодна з законам у Крымінальным кодэксе Рэспублікі Беларусь з'явіліся артыкулы аб крымінальнай адказнасці за дыскрэдытацыю дзяржавы, падрыхтоўку ўдзельнікаў вулічных акцый пратэсту, удзел у незарэгістраваных грамадскіх і палітычных аб'яднаннях. Апаненты ўлады жорстка крытыкавалі закон, сцвярджаючы, што ў Крымінальны кодэкс Беларусі фактычна вернуты сталінскія рэпрэсіўныя палажэнні, якія дазваляюць пераслед грамадзян за крытыку існуючай улады, за выказванні аб незадавальняючых умовах жыцця ў краіне.

**Закон "Аб прафесійным пенсіённым страхаванні" (12 снежня 2007 года)**

Анансавалася, што новы закон дазволіць рацыянальна расходаваць пенсіённыя сродкі. "Рацыянальна" вылілася ў тое, што работнікі, занятыя ў шкоднай і небяспечнай вытворчасці, страцілі права на афармленне датэрміновай пенсіі. Толькі ў гэтым годзе незалежны прафсаюз дамогся некаторых змяненняў у гэты закон.

**Закон "Аб гарантаванай кампенсацыі банкаўскіх укладаў" (10 чэрвеня 2008 года)**

У законе няма ні радка аб кампенсацыі савецкіх укладаў. А менавіта гэтага рашэння чакалі ўсе, хто згубіў грашовыя ўклады з распадам СССР. Бо ў 2007 годзе дзеянне ўказа, які рэгуляваў выплаты, скончылася, а новы заканадаўчы акт на той момант так і не з'явіўся.

**Пастанова Палаты прадстаўнікоў "Аб Дэкрэце Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 17 ліпеня 2008 г. "Аб асобных пытаннях агульнай сярэдняй адукацыі" (3 кастрычніка 2008 года)**

Гэтай пастановай па сутнасці была ўхвалена новая рэформа сярэдняй школы Беларусі.

Школа зноў стала 11-гадовай, былі ліквідаваны профільныя класы, якія дазвалялі вучням атрымліваць паглыбленыя веды па асобных прадметах. Па сутнасці, адбыўся адкат у савецкую сістэму школьнай адукацыі.

*Пенсія (на сённяшні дзень), прызначаная экс-дэпутату Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу 3-га склікання Ніне Фёдараўне Ругаль на падставе Указа прэзідэнта ад 30 лістапада 2006 года "Аб штомесячным грашовым утрыманні асобнай катэгорыі дзяржаўных служачых",*

***9 МІЛЬЁНАЎ 128 ТЫСЯЧ РУБЛЁЎ.***

БЛІЦ-КАМЕНТАРЫЙ

## *Мікалай КРЫЖАНОЎСКІ: «Памер пенсіі павінен залежаць толькі ад шматгадовай стваральнай дзейнасці чалавека...»*

— На маю думку, парадак прызначэння пенсіі трэба прынцыпова мяняць, — выказаў сваё меркаванне Мікалай Крыжаноўскі, калі яму стала вядома, што "Народная Воля" вырашыла падняць гэтую архіважную праблему. — Памер пенсіі павінен залежаць толькі ад шматгадовай стваральнай дзейнасці чалавека. Крытэрыямі ацэнкі такой дзейнасці павінны быць працоўны стаж і індывідуальны каэфіцыент пенсіянера, які адлюстроўвае яго ўнёсак у народную скарбонку і разлічваецца ў залежнасці ад яго сярэдняй зарплаты за пэўны час гэтай стваральнай дзейнасці.

Вядома ж, я — за справядлівасць. Але шчыра скажу: як і многія іншыя дэпутаты-дэмакраты Вярхоўнага Савета 12-га склікання, працаваў не дзеля пенсіі. Мы думалі пра лёс краіны.

БЛІЦ-КАМЕНТАРЫЙ

## *Ніна РУГАЛЬ: «Чаму я павінна адмаўляцца?»*

Ніна Ругаль, з якой мы звязаліся па тэлефоне, заявіла, што не каментуе сітуацыю, якая склалася сёння вакол дэпутацкіх пенсій.

— Я ж сабе пенсію не ўстанаўлівала, — заўважыла яна. — Ёсць органы, якія павінны аналізаваць, параўноўваць. Ад мяне сёння нічога не залежыць. Калі ішла ў парламент, была не пенсіённага ўзросту і нават не задумвалася, якую буду атрымліваць пенсію. Гэта ўжо потым з'явіўся ўказ прэзідэнта... Сёння мне даюць пенсію, чаму я павінна ад яе адмаўляцца?

## *Ад рэдакцыі*

Не, не выпадковы загаловак мае гэтая падборка. Несправядлівасць у вырашэнні пенсіённага пытання відавочная. І М.Крыжаноўскі, і Н.Ругаль жылі і працавалі ў адным горадзе — Жодзіне. Па статусным узроўні займалі прыкладна аднолькавыя пасады. Абое займаліся парламенцкай дзейнасцю. Праўда, у розныя гады. М.Крыжаноўскі — на зломе эпох. Тады, калі вырашаўся лёс краіны: куды яна пойдзе, па якой дарозе? Н.Ругаль — пазней, калі да ўлады прыйшоў А.Лукашэнка і стварыў так званы двухпалатны парламент.

Цяпер у аднаго экс-дэпутата, можна сказаць, мізэрная пенсія — 2 мільёны 553 тысячы рублёў (яшчэ працуе), а ў другога — 9 мільёнаў 128 тысяч рублёў. Пагадзіцеся, розніца значная. А хто больш зрабіў для Беларусі — меркаваць вам, шаноўныя чытачы. Як і пра тое, чаму ў нас такая несправядлівасць.

РЭГІЁНЫ

## *Не як рыба ў вадзе*

У Віцебскай вобласці з пачатку года патанулі 8 рыбакоў.

Усіх аматараў рыбалкі падвёў тонкі лёд. Спецыялісты адзначаюць, што такая колькасць утапленняў звязана з кароткай зімой. Выратавальнікі заўважаюць, што вясновы лёд надзвычай небяспечны. У адрозненне ад першага зімовага ён не трашчыць, а адразу ламаецца пад нагамі, і чалавек рэзка сыходзіць пад ваду.

## *Захацеў падсілкавацца*

За тры пачкі масла і кілаграм мяса беспрацоўнаму пагражае да 4 гадоў пазбаўлення волі. Няхітры набытак — масла ды мяса — 37-гадовы беспрацоўны жыхар Віцебска вынес з адной з крам сеткі "Еўраопт". Мужчына нават не надта хаваўся, таму праваахоўнікі дзякуючы запісам камер відэаназірання хутка ўсталявалі асобу рабаўніка. Сёння ён праходзіць абвінавачаным па крымінальнай справе, яму пагражае да 4 гадоў пазбаўлення волі.

## *Сумная статыстыка*

Пенсіянеры сталі часцей зводзіць рахункі з жыццём.

У мінулым годзе колькасць суіцыдаў у Гродзенскай вобласці павялічылася на 5%. Адбылося гэта за кошт пенсіянераў. Усяго ў мінулым годзе добраахвотна развіталіся з жыццём 293 жыхары вобласці. Прычым часцей самагубства выбіраюць жыхары вёскі, а не горада.

## *У кватэры гродзенкі расцвіла «трупная» кветка*

Клубень аморфафалус, або "трупную" кветку, жанчыне 10 гадоў таму падарылі сябры. За ўвесь гэты час экзатычная расліна ні разу не цвіла. А ў гэтым годзе за пару дзён вырасла больш за метр у вышыню. Аморфафалус часта называюць "трупнай" кветкай за спецыфічны пах падчас цвіцення.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

# Опасная Россия

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Более всего переплетены экономические интересы России с Германией. Последняя — крупнейший западный потребитель российского газа (одна треть всего потребляемого газа в стране). Сотни немецких фирм работают на российском рынке. Однако Меркель в числе первых решительно объявила о необходимости торгово-экономических санкций после ввода российских войск в Крым. Россию грозят исключить не только из числа наиболее влиятельных стран G-8 (вернувшись вновь к G-7), но и из ВТО. Запад собирается заморозить российские активы за рубежом. Их набирается порядка 500 млрд долларов. Но Россия намерена тогда принять адекватные меры и арестовать западные активы. Кому будет больнее? Не секрет, что многие высокопоставленные российские чиновники, включая Госдуму, обучают своих детей на Западе, имеют там немалую собственность. Поэтому Путин и поставил вопрос ребром: хочешь находиться в органах власти — избавься от недвижимости за рубежом. А сколько недвижимости на Западе, в США имеет российская попса, другие деятели, в том числе те, которые подписали письмо в поддержку действий Путина? Российские банки и крупные корпорации должны Западу порядка 700—800 миллиардов долларов. Россия может наложить мораторий на выплату долгов. В общем, действительно ущерб от санкций будет обоюден, особенно если дело пойдет по принципу "нашла коса на камень".

Наверное, Путин это все хорошо просчитал и взвесил, прежде чем решился на отторжение Крыма от Украины. И пока, как можно видеть, эта программа-минимум предпринятых им агрессивных действий выполняется. Запад поможет Украине чем может, но не пойдет на открытую военную конфронтацию между государствами, обладающими ядерным оружием. А Путин надеется войти в анналы новейшей российской истории как собиратель земель. Это для него особо важно, а может, и главное, поскольку экономику России он так и не сумел поднять до уровня развитых государств мира. Россия по уровню жизни населения остается не более чем среднеразвитой страной. Помимо этого ее экономика в последние годы стагнирует, кое-где переходит в стадию рецессии, потеряла восстановительный рост. Это соответствующим образом отражается на экономике Беларуси. Обе экономики остро нуждаются в современных технике и технологиях, значит, в западном капитале, в новом технологическом укладе. А этого можно достичь только путем сотрудничества с развитыми странами мира, но не за счет бряцанья оружием.

Россия остается страной с типичными для нее историческими проблемами. Ее огромная территория при всей централизации власти — слабо управляемая, а порой и неуправляемая. На фоне гламурных витрин Москвы и Санкт-Петербурга, отдельных других крупных городов — ужасающая бедность глубинки, запущенность периферии. За последние 20 лет в России количество русских уменьшилось на 7 миллионов. Ежегодно Россия теряет по численности людей область, равную Псковской, или такой город, как Краснодар. По продолжительности жизни мужчин (60 лет) она занимает 160-е место в мире и 1-е место по абсолютной величине убыли населения. Страну разрушают пьянство и наркомания. 30 тысяч россиян ежегодно гибнут от передозировки наркотиков, 70 тысяч — от злоупотребления алкоголем. На одного жителя России приходится 15 литров выпитого спирта в чистом эквиваленте. В стране миллионы беспризорных детей, значительно больше, чем после войны. 80% из 370 тысяч детей, находящихся в детских домах, имеют живых родителей. 8 из 10 стариков, проживающих в домах престарелых, имеют родственников, способных их содержать. От них отказались. Это нравственная нищета России.

Размер взяток в России при Путине удесятерился. За последние 10 лет в Сибири исчезло 11 тысяч деревень и 290 городов. Средняя плотность населения Сибири и Дальнего Востока — 2 человека на 1 кв. км, тогда как в Центральной части — 46 человек на 1 кв. километр. Восточные районы страны тихой сапой успешно колонизирует Китай. По логике Путина, ему ничего не стоит ввести туда войска для защиты обиженных соплеменников. Тогда всем мало не покажется. Власти же России, вместо того чтобы вплотную заняться своими кричащими проблемами, сегодня собирают по всей стране, от Калининграда до Владивостока, истерические митинги с лозунгами "Своих не бросим!" и другими ура-патриотическими призывами, спекулируя на победах Советского Союза в виде георгиевских ленточек.

Российскому руководству нужно набраться смелости, мужества и сказать своему народу горькую правду, что страна утратила восстановительный рост и не может двигаться вперед, что большая часть народа по-прежнему живет в бедности, что в экономическом отношении страна остается третьестепенным государством с сырьевой экономикой. Государством, где акцент делается, как и в советские времена, на милитаризацию экономики, на усиленное развитие ВПК, который где-то надо задействовать. Россия все больше отстает в своем цивилизованном развитии от передовых государств мира. Страна стала еще дальше от достижения базовых принципов демократического общества: сменяемости власти, верховенства закона и ответственности перед ним всех без исключения, независимости судебной и других ветвей власти, гарантирования государством соблюдения прав человека. На такие поступки Путин не способен. При его непосредственном участии СНГ превратился в содружество независимых (или зависимых от него) автократий и диктатур, а Россия прочно заняла место Советского Союза и с имперскими амбициями поддерживает подобные режимы за рубежом. Поэтому Украине, видимо, ничего не останется, как выйти из Содружества.

Многое, что есть в России, в российском обществе, можно проецировать и на Беларусь, которая полностью зависит от коварного восточного соседа. Если экономика России чихнет, белорусская сляжет с гриппом. Нет роста благосостояния людей у сюзерена — тем более не будет и у вассала.

Можно сказать, откровенная оккупация Россией украинского Крыма пролила свет на многие неприятные для белорусских вождей моменты. Но извлекут ли они из этого должный урок? Не появятся ли российские боевики без опознавательных знаков в Минске, Витебске, Могилеве и других белорусских городах?

